Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 19 студзеня 1999 г. № 5 (536) Кошт свабодны

*Дыпламатычны канфлікт скончыўся?*

## Паслы ўзяліся за працу

**Паслы пяці краінаў Еўрапейскага саюза, якія ў нядзелю вярнуліся ў Беларусь, прыступілі да кансультацыяў.**

Нагадаем, што кіраўнікі дыпламатычных місіяў пакінулі нашую краіну 22 чэрвеня мінулага года, пасля прымусовага высялення з рэзідэнцыяў у комплексе Дразды. Дыпламатычны канфлікт пакуль канчаткова не вырашаны. Не прыехаў у Мінск разам з калегамі краінаў ЕС амерыканскі пасол.

Па словах Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Вялікабрытаніі Джэсікі Пірс, пасля вяртання дыпламаты краінаў ЕС правядуць кансультацыі з беларускім бокам. Па нашых звестках, нямецкі пасол Хорст Вінкельман з аэрапорта накіраваўся ў часовую рэзідэнцыю, бо памяшканне ў комплексе «Дразды» пакуль не гатовае. Адказваючы на пытанні журналістаў у аэрапорце, французскі амбасадар адзначыў, што ў Мінску «шмат працы», а спадарыня Джэсіка Пірс выказала спадзяванне, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць у 1999 годзе.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**




*Амбасадары Джэсіка Пірс (Вялікабрытанія) і Бернар Фасье (Францыя) зноў сустрэліся ў Мінску. Нямецкі пасол Хорст Вінкельман адказвае на пытанні журналістаў у аэрапорце «Мінск-2».*



## На Міншчыне – сібірская язва

**У вёсцы Вялікае Залужжа Смалявіцкага раёна выяўлена сібірская язва.**

На ферме мясцовага калгаса імя Гагарына 11 студзеня зарэзалі карову, якая адмаўлялася ад корму, а 14 студзеня быў устаноўлены дыягназ. Пасля гэтага небяспечнае мяса спалілі.

Эпідэміёлагі і ветэрынары прымаюць цяпер экстранныя меры для таго, каб спыніць распаўзанне сібірскай язвы. На ферме, якую на працягу сутак ахоўваюць тры пасты міліцыі, уведзены каранцін. Па словах эпідэміёлагаў, новых выпадкаў захворвання сярод жывёлы і людзей пакуль не зарэгістравана. Пад наглядам знаходзіцца 55 чалавек, якія пілі малако ад хворай каровы, дагледзалі яе альбо транспартавалі мяса. Шасцёра вяскоўцаў, сярод якіх чацвёра дзяцей, шпіталізаваныя і знаходзяцца ў Барысаўскай інфекцыйнай бальніцы.

Па словах эпідэміёлага Ігара Касяка, пакуль не ўдалося вызначыць крыніцу інфекцыі. Хутчэй за ўсё яна трапіла разам з кармамі. У калгасе імя Гагарына сібірскую язву знаходзілі ў 1932 і 1939 гадах, а таксама падчас другой сусветнай вайны. У Беларусі апошні выпадак гэтага небяспечнага для чалавека інфекцыйнага захворвання быў зарэгістраваны чатыры гады назад.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Збожжа не хапае

**Як паведаміў старшыня камітэта хлебапрадуктаў мінсельгасхарчу Міхаіл Петрашкевіч, сённяшніх запасаў збожжа, як сваіх, так і набытых за мяжой, хопіць толькі да сакавіка.**

Да новага ўраджаю Беларусі трэба набыць яшчэ каля 300 тысяч тон пшаніцы, а таксама 800 тысяч тон фуражнага збожжа — для вытворчасці камбікармоў.

Нагадаем, што мінулай восенню ўрад прыняў рашэнне аб выдзяленні 7,5 мільёна долараў ЗША на закупку за мяжой пшаніцы для выпечкі хлеба і хлебабулачных вырабаў. Гэтыя грошы ўжо ўсе разышліся, але збожжа ўсё роўна не хапае.

*БелаПАН*

## Цэнтрвыбаркам пачынае і...

**У мінулую суботу прызначаны Вярхоўным Саветам 13-га склікання Цэнтрвыбаркам правёў сваё першае пасяджэнне.**

Праўда, не абышлося без праблемаў з месцам сходу. У апошні момант высветлілася, што Міжнародны адукацыйны цэнтр на праспекце газеты Праўда зачыняецца на рамонт, у выніку Віктару Ганчару з калегамі прыйшлося затраціць пэўны час на пераезд у гатэль «Арбіта», дзе і прайшло пасяджэнне. На ім былі зацверджаныя неабходныя планы ды інструкцыі і абраныя намеснікі старшыні і сакратар. Намеснікамі старшыні Віктара Ганчара абраныя Георгій Таразевіч і Іосіф Навумчык, а сакратаром Цэнтрвыбаркама стаў Барыс Гюнтэр. Як бачым, за правядзенне прэзідэнцкіх выбараў па Канстытуцыі 1994 года бяруцца вядомыя і вельмі аўтарытэтныя палітыкі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Мінскія эксперты ігнаруюць кіраўскі суд

**На працэсе ў Кіраўску, дзе судзяць Васіля Старавойтава, — скандал. Па хадайніцтву абароны суд разбіраецца з экспертамі-медыкамі, якія аглядалі Старавойтава.**

Гісторыя з экспертызай пачалася яшчэ 22 снежня мінулага года, калі суд на чале з Надзеяй Чмарай пасля цэлай серыі хадайніцтваў адвакатаў Веры Страмкоўскай і грамадскага абаронцы Гары Паганяйлы прызначыў медыцынскае абследаванне Васіля Старавойтава. Нарэшце, 5 студзеня да былога старшыні «Рассвета» ў баўруйскі ізалятар сапраўды прыехала група экспертаў — дактары Лугаўцоў, Пугач, Буданаў. Гэтую групу ўзначальваў загадчык аддзела бюро судова-медыцынскай экспертызы Роберт Давыдаў. Дактары агледзелі Старавойтава і дамовіліся падрыхтаваць вынікі экспертызы ўжо ў Мінску. Па словах эксперта-псіхіятра Валерыя Буданава, ён адразу папярэдзіў, што зробіць асобнае заключэнне, якое дашле калегам. Але ў выніковым дакуменце, які быў адпраўлены ў кіраўскі суд, ягонае меркаванне не было ўлічана. Р.Давыдаў сцвярджае, што эксперт Буданаў свайго заключэння яму не перадаваў.

НАВІНЫ ўжо паведамлялі пра тое, што эксперт-псіхіятр вышэйшай катэгорыі Валерый Буданаў палічыў Васіля Старавойтава няздольным удзельнічаць у працэсе. Гэтая высноintroduced цалкам супярэчыла заключэнню іншых экспертаў. На іх думку, у 74-гадовага вязня дастаткова здароўя, каб сядзець за кратамі. На думку Валерыя Буданава, ягонае меркаванне было праігнараванае якраз таму, што ішло «ўразрэз» з заключэннем астатніх экспертаў. *«Я не сам напрасіўся ў экспертную групу. Загад накіраваць спецыяліста прыйшоў у нашую клініку зверху, у аддзеле мы нават кідалі жэрабя, хто паедзе. Даваўся ехаць мне, а далей я ўжо выконваў свой абавязак»,* — распавёў НАВІНАМ доктар Буданаў.

Між тым, Роберт Давыдаў зараз заяўляе, што Буданаў і не далучаўся ў якасці эксперта. *«Калі спатрэбілася ведаць псіхічны стан абвінавачанага, суддзі звярнуліся б напрамую ў псіханеўралагічны шпіталь, дзе працуе эксперт Буданаў. Але зварот быў накіраваны да нас, у рэспубліканскую судова-медыцынскую экспертызу. Мы вырашылі далучыць спецыяліста па псіхіятрыі з адзінай мэтай — каб высветліць, ці не ўплываюць дрэнна на псіхічны стан здароўя Старавойтава лекі, якія ён прымае. Такім чынам Буданаў выкарыстоўваўся не як эксперт, а толькі як кансультант»,* — тлумачыць Роберт Давыдаў. Эксперт Валерый Буданаў такім стаўленнем да сябе абураецца і заяўляе пратэст. Амаль увесь мінулы тыдзень суд у Кіраўску разбіраўся ў канфлікце паміж экспертамі, але так і не здолеў паставіць кропку. Суддзя Надзея Чмара нават асабіста запрасіла прыехаць на судовае пасяджэнне ўсіх экспертаў, аднак у пятніцу на працэсе з'явіўся толькі Валерый Буданаў. Роберта Давыдава і іншых экспертаў, якія выказаліся за далейшае ўтрыманне Старавойтава ў турме, чакаюць у кіраўскім судзе на гэтым тыдні.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Васілю Шаранговічу – 60 гадоў

**14 студзеня ў Палацы мастацтва ўрачыста адчынілася юбілейная выстава народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча.**

Сёлета Васіль Шаранговіч святкуе сваё 60-годдзе. Гэта нагода, каб прыгадаць ягоныя заслугі перад беларускай культурай. *«Састаўныя часткі майго жыцця, — кажа юбіляр, — гэта творчасць, а таксама педагогіка, адміністратыўная работа і грамадская дзейнасць. І дзеля гэтага, на жаль, у многім я ахвяраваў творчасцю».* Аднак, на думку дзеячаў культуры, якія выступалі з віншавальнымі прамовамі на адкрыцці выставы, Васіль Шаранговіч ва ўсіх сферах сваёй дзейнасці мае вялікі плён.

Выкладчыкі і студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў, рэктарам якой на працягу многіх гадоў быў Васіль Шаранговіч, і цяпер лічаць сябе ягонымі вучнямі, працягваюць закладзеныя Настаўнікам традыцыі. Вялікую работу ажыццяўляе мастак як сябра Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, а таксама Беларускага фонду культуры. Але галоўная справа — Музей сучаснага беларускага мастацтва, дырэктарам якога Васіль Шаранговіч працуе ад самага пачатку.

*«Я спадзяюся нешта слушнае яшчэ зрабіць для Радзімы»,* — сказаў на адкрыцці сваёй выставы Васіль Шаранговіч. НАВІНЫ жадаюць шаноўнаму юбіляру творчых поспехаў і здзяйснення ўсіх задумаў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**



*Мастацкі «бамонд» выстраіўся ў чаргу, каб павіншаваць Васіля Шаранговіча з юбілеем.*

# Шэсце за незалежнасць

**Больш за тры тысячы мінчанаў сабрала акцыя ў абарону незалежнасці, якую правяла ў нядзелю сацыял-дэмакратычная «Народная Грамада».**

Даволі ўнушальнай калонай апазіцыянеры прайшлі ад плошчы Якуба Коласа да мінскага «гайд-парка» — плошчы Парыжскай камуны побач з Оперным тэатрам, дзе і адбыўся мітынг. Праслухаўшы палымяныя прамовы выступоўцаў, удзельнікі мітынгу аднадушна прынялі рэзалюцыю з некалькіх пунктаў. Гэтыя пункты мелі канкрэтных адрасатаў. Ад уладаў было запатрабавана *«спыніць злачынныя дзеянні, якія накіраваныя на далучэнне Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі»*. Міжнароднай супольнасці ўдзельнікі мітынгу рэкамендавалі «звярнуць увагу» на пагрозу, якая вынікае з палітыкі Крамля, Вярхоўнаму Савету 13-га склікання дасылаліся словы падтрымкі — з нагоды прызначэння прэзідэнцкіх выбараў. Віталі таксама амбасадараў краінаў Еўрапейскага саюза, якія вярталіся ў Мінск якраз у тыя часы, калі праходзіў мітынг. *«Мы не лічым гэта актам у падтрымку рэжыму Лукашэнкі, а лічым чарговым крокам на шляху развіцця міжнародных адносінаў — на карысць беларускага народа»*, — гэтак ацанілі сацыял-дэмакраты «Народнай Грамады» іх прыхільнікі вяртанне паслоў у Мінск.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



# Кожнаму «віцэ» – свой абавязак

**Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову, якой падзяліў абавязкі паміж прэм'ер-міністрам і ягонымі намеснікамі.**

Згодна з гэтым дакументам, прэм'ер-міністр рэспублікі Сяргей Лінг, акрамя агульнага кіраўніцтва дзейнасцю ўрада, адказвае таксама за пытанні абароны, унутраных і замежных справаў, юстыцыі, бюджэту і фінансаў.

Першы віцэ-прэм'ер Васіль Даўгалёў курыруе ва ўрадзе пытанні эканамічнай рэформы, макраэканамічнай стабілізацыі і знешнепалітычнай дзейнасці, працы, міжнародных фінансава-крэдытных арганізацыяў, а таксама Саюза з Расіяй.

Віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў курыруе агульныя пытанні развіцця прамысловасці, яе структурнай перабудовы, канверсіі абаронных галінаў, вытворчай інфраструктуры, а таксама паліўна-энергетычнага комплексу і энергазберажэння.

Віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі кіруе будаўнічым комплексам, развіццём жыллёвай і камунальнай гаспадаркі, транспарту і сувязі, а таксама займаецца пытаннямі прадпрымальніцтва і інвестыцыяў.

Віцэ-прэм'ер Леанід Козік адказвае ва ўрадзе за пытанні мытнага рэгулявання, падатковай палітыкі, гандлю і паслуг насельніцтву, матэрыяльных рэсурсаў, кіраванне дзяржмаёмасцю і прыватызацыяй, узаемадзеянне ў рамках СНД.

Віцэ-прэм'ер Аляксандр Папкоў адказвае за агульныя пытанні развіцця аграпрамысловага комплексу, праблемы вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, забеспячэння насельніцтва харчаваннем.

Віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін вырашае агульныя пытанні развіцця сацыяльна-культурнага комплексу Беларусі, каардынуе дзейнасць дзяржаўных органаў па ажыццяўленні навукова-тэхнічнай палітыкі.

*БелаПАН*

# «На Беларусі зможам жыць па-панску»

**Сталі вядомымі некаторыя падрабязнасці па справе двух грамадзянаў Польшчы, якія нядаўна папрасілі палітычнага прытулку ў Беларусі.**

Нагадаем, што жыхары польскага гарадка Аўгустаў Рышард Клімоўскі і Шчэпан Унукоўскі звярнуліся ў беларускае консульства ў Беластоку з просьбаю даць ім палітычны прытулак у нашай краіне. 70-гадовы Клімоўскі і 49-гадовы Унукоўскі вырашылі пераехаць жыць у Беларусь, бо ў Польшчы, на іх думку, пануе бясправе і парушаюцца правы чалавека. Клімоўскі да ўсяго яшчэ спадзяецца, што ў Беларусі на сваю пенсію ў 200 долараў ён зможа жыць «па-панску».

Нядаўна абодва «дысідэнты» падрабязна расказалі карэспандэнту беластоцкай беларускай газеты «Ніва» аб матывах, што прымусілі іх прасіць прытулку менавіта ў Беларусі.

*«Калі б мы папрасілі прытулку ў Амерыцы, ніхто не звярнуў бы на нас увагі, а так усе пра нас пішуць і гавораць»*, — з гонарам паведаміў пан Клімоўскі.

Рышард Клімоўскі — чалавек адукаваны, педагог па прафесіі, мае даўні сантымент да Беларусі і беларусаў. Ён упэўнены, што ў нашай краіне лепшая дэмакратыя, чым у Польшчы. Свой родны горад Аўгустаў Рышард лічыць гняздом злачынстваў і карупцыі, дзе правіць баль мафія. *«Мяне абвінавацілі ў забойстве нейкага псіхапата. Праўда пазней пракурор адхіліў гэтыя кашмарныя абвінавачванні, але ў мяне ўсё роўна пачаліся вялікія праблемы. Спачатку згарэў мой дом, а потым улады адмовіліся прадаставіць мне месца ў доме састарэлых»*, — гаворыць Клімоўскі. На думку Рышарда, мясцовая мафія проста вырашыла зжыць яго са свету, а суддзя і адвакат выступаюць за адно з бандытамі.

Прыватны прадпрымальнік Шчэпан Унукоўскі таксама мае вялікі вопыт «барацьбы з мафіяй». Паводле ягоных словаў, усё пачалося пяць гадоў таму, калі Шчапана судзілі за кіраванне аўтамабілем у п'яным выглядзе, што прывяло да дарожнай аварыі. Унукоўскі тады вінаватым сябе не прызнаў, і цяпер, на яго думку, мафія хоча з ім расправіцца іншым чынам. *«За маім домам пастаянна сачылі з прыпаркаванай побач машыны, потым атруцілі дваровага сабаку»*, — гаворыць Унукоўскі. Цяпер ён баіцца, што мясцовыя ўлады пры дапамозе мафіі могуць абвінаваціць яго ў якім-небудзь забойстве.

*«Беларусы не дазволілі б у сябе такіх парадкаў. Пан Лукашэнка хутка разабраўся б з гэтымі мафіёзі»*, — гаворыць Рышард Клімоўскі. Ён з'яўляецца даўнім прыхільнікам таленту беларускага прэзідэнта. Клімоўскі лічыць беларусаў братнім славянскім народам, з якімі ён заўсёды зможа дамовіцца, не тое што з нейкімі англасаксонцамі. Цёпла ўспамінае Рышард і савецкіх настаўніц, якія выхоўвалі яго ў дзіцячым прытулку падчас вайны.

Клімоўскі і Унукоўскі спадзяюцца, што ў Беларусі дзяржава будзе бараніць іх чалавечыя і грамадзянскія правы. Абодва хацелі б пасяліцца ў Гродне, каб лёгка было прыязджаць у Аўгустаў. Клімоўскаму — за пенсіяй, а Унукоўскаму — да сям'і. Па словах Рышарда, яны не адзіныя жыхары Аўгустава, якія хацелі б атрымаць у Беларусі прытулак. Нядаўна ён склаў спецыяльны спіс падобных «дысідэнтаў», у які ўжо запісалася 14 чалавек. Праўда, ёсць у Аўгуставе такія людзі, якія адкрыта абражаюць Рышарда і Шчэпана за прыхільнасць да Лукашэнкі. *«Нядаўна адзін ад імя мясцовых беларусаў мяне так прылюдна абазваў, што сорамна і паўтарыць»*, — паскардзіўся журналістцы «Нівы» Клімоўскі. Тым не менш абодва сябры цвёрда намераны эміграваць у Беларусь.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# У Гродне рыхтуюцца да выбараў

**Працягваецца падрыхтоўка да мясцовых выбараў, прызначаных на 4 красавіка.**

У Гродзенскім аблвыканкаме паведамілі, што для правядзення выбараў у Гродзенскай вобласці спатрэбіцца 25 тонаў паперы. Па словах мясцовых чыноўнікаў, менавіта на паперу пойдзе асноўная частка выдзеленых сродкаў.

Выбарчую камісію ў Гродзенскай вобласці ўзначальвае Міхаіл Енка, старшыня камітэта па працы абласнога выканкама. На пытанне, чаму ў склад камісіі трапіла так многа начальнікаў, ён адказаў, што *«гэта тыя, хто займаецца вытворчасцю, а не палітыкай»*, карацей — вельмі дастойныя людзі.

Тры вайсковыя часткі з Гродна і адна слонімская будуць у красавіку на вучэннях, таму яны звярнуліся да выбарчай камісіі з просьбай паспрыяць у правядзенні выбараў. Але датэрмінове галасаванне дазваляецца толькі за пяць дзён да дня выбараў, таму выбарчую скрынку салдатам прывязуць на месца вучэнняў, як прывозяць яе дахаты хворым і нямоглым.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# За сувязь плаці больш

**З 14 студзеня на 30-100 працэнтаў павысіліся кошты практычна на ўсе паслугі сувязі.**

Цяпер паслаць пісьмо па Беларусі будзе каштаваць 4 тысячы рублёў (замест дзвюх тысяч), паштоўка — 1 тысяча.

За звычайны ліст амаль ва ўсе краіны СНД (акрамя Азербайджана), а таксама ў Літву і Латвію трэба будзе заплаціць 10 тысяч рублёў (авіятарыф — 13 тысяч). Калі вы дасылаеце заказны ліст, трэба дадаць яшчэ 6 тысяч рублёў. На паштоўку дастаткова наклеіць марак на 3 тысячы рублёў.

Падаражэлі адпраўленні і ў «далёкае» замежжа. Простае пісьмо, адпраўленае наземным шляхам, каштуе цяпер 18 тысяч, а «авія» — 31 тысяча. Даплата за заказ — 10 тысяч рублёў.

Нагадаем, што ўсе тарыфы прыведзеныя для пісьмаў масай (разам з канвертам) да 20 г. Калі пісьмо важыць больш, то для яго пачынаюць дзейнічаць зусім іншыя тарыфы.

Нагадаем таксама, што наша доблесная пошта не нясе ніякай адказнасці за згублены ліст (паштоўку), калі яны пасылаліся як «звычайныя». А вось ужо за заказныя адпраўленні, які за каштоўныя, пошта нясе адказнасць. Напрыклад, калі згубіўся ваш ліст сябрам у Германію, адпраўлены як «заказны», і вы пра гэта даве-даліся, то можаце патрабаваць ад пошты кампенсаваць вам страты. Толькі абавязкова захавайце квіток аб адпраўцы пісьма. Тады пошта, у адпаведнасці з міжнароднай канвенцыяй Сусветнага паштовага саюза, мусіць выплаціць вам 50 швейцарскіх франкаў (натуральна, што ў беларускім рублёвым эквіваленце).

Падвысіліся і тарыфы на тэлефонныя перамовы. Цяпер кошт 1 хвіліны размовы ў межах вобласці, дзе вы жывеце, каштуе 1.600 рублёў, па Беларусі — 3.200 рублёў.

За міжнародныя размовы па тэлефоне таксама давядзецца плаціць значна больш. Самая танная размова атрымаецца з Украінай — 38 тысяч за хвіліну. Потым — з Польшчай і Расіяй — 42 тысячы.

Перамовы з краінамі Балтыі каштуюць цяпер 49 тысяч за хвіліну. За 52 тысячы можна хвіліну размаўляць з Аўстрыяй, Бельгіяй, Іспаніяй, Чэхіяй. За 57 тысяч — з Германіяй і Францыяй. За 70 тысяч вы зможаце хвіліну быць на сувязі альбо з Вялікабрытаніяй, альбо з Азербайджанам, Казахстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам і Узбекістанам. Званок у ЗША будзе вам каштаваць 129 тысяч рублёў за хвіліну, у Ізраіль — 152 тысячы.

Трэба плаціць больш і за хатні тэлефон: штомесячная абаненцкая плата складае цяпер 40 тысяч рублёў, кошт адной хвіліны размовы ў межах горада — 150 рублёў. Як і раней, 1 гадзіну ў месяц можна размаўляць бясплатна.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## *Дарэчы*

Учора ў Мінску падаражэў праезд у метро. Цяпер адна паездка каштуе 4 тысячы рублёў. А з 25 студзеня падвысіцца кошт праезду ў наземным транспарце.

**А.Д.**

# «Ограбление века»

**8 января в Польше произошло самое крупное в ее истории ограбление, которое польская пресса окрестила «ограблением века». Похищено более миллиона долларов в разных валютах.**

Эти деньги перевозили из отдела австрийского банка *Raiffeisen Centrobank* во Вроцлаве в Познань. Конвой, перевозящий деньги, состоял из двух машин, хотя правила предписывают конвоировать суммы свыше 1 млн. долларов не менее чем тремя машинами. Охрана состояла из 5 человек с короткоствольным оружием (по правилам — не менее 7, вооруженных длинноствольным оружием). Как установила полиция, были и другие нарушения. Связь с конвоем поддерживалась только посредством сотовых телефонов, а это не гарантирует непрерывной связи. Конвой обязан выходить на связь с централью каждые полчаса. Но то, что в день ограбления звонков не было вообще, никого не встревожило. Когда же машины с деньгами не приехали вовремя в Познань, дирекция охранной фирмы забеспокоилась только спустя полтора часа. А полиция узнала о случившемся и приступила к поискам пропавшего конвоя еще через три с половиной часа. За это время преступники уже могли пересечь с деньгами не одну европейскую границу.

Как оказалось, конвой вместо дороги на Познань поехал из Вроцлава в варшавском направлении. Когда удалось связаться с охранниками, перевозившими деньги, оказалось, что оба водителя пропали, а остальные трое заявили, что, вероятно, были усыплены или отравлены своими коллегами. Они пришли в себя в автомобиле посреди леса в стороне от дороги, а второй автомобиль пропал вместе с деньгами.

Полиция рассматривает несколько версий, в том числе подозревает, что трое «нашедшихся» охранников убили двух своих коллег, спрятали тела и сами приняли снотворное. До этого случая самым крупным ограблением в Польше считали нападение в 1995 г. в Варшаве на конвой, перевозивший зарплату, тогда было похищено 1,2 млн. злотых.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**



Лешэк БАЛЬЦЭРОВІЧ

# «Сацыялізм. Капіталізм. Трансфармацыя»

(Фрагменты з кнігі)

## Агульныя памылкі ў спрэчках аб эканамічнай рэформе

(Працяг. Пачатак у № 3-4)

### Эмацыянальная лексіка

Вельмі часта ў дыскусіях па эканоміцы любяць ужываць эмацыянальна афарбаваную тэрміналогію для вобразнага ўздзеяння на апанентаў ці прыхільнікаў. Напрыклад, запазычаны са сферы лячэбнай псіхіятрыі выраз «шокавая тэрапія» схіляе грамадскую думку супраць радыкальных мераў. Слова «сацыяльны» таксама валодае пэўнай магіяй, але ўжо пазітыўнага кшталту (бо для большасці слова нагадвае звычны «сацыялізм»). Магчыма, з гэтай прычыны тэрмін «сацыяльная рыначная эканоміка» набыў папулярнасць у Польшчы ў дэбатах аб пажаданай эканамічнай мадэлі. Нямногія ведаюць, што ён азначае, але амаль усе шчасліва ўпэўненыя, што гэта — нейкі лепшы тып рыначнай эканомікі. На справе, тэрмін быў створаны ў 40-я гады ў Германіі для характарыстыкі канкурэнтнай капіталістычнай эканомікі з пэўным дадаткам сацыяльнай аховы.

Эмацыянальныя асацыяцыі шырока ўжываюцца ў дэбатах па праблемах сельскай гаспадаркі. Гэта часткова тлумачыць, чаму нават гарадское насельніцтва прыязна ўспрымае аргументы пра неабходнасць дзяржаўнай апекі над вёскай. Часта кажуць, што сельская гаспадарка заслугоўвае асаблівых адносінаў, бо вырабляе унікальны тавар — ежу, асабліва, якога палягае на тым, што ежа — аснова жыцця. Такая тэза ставіць знак роўнасці паміж сельскай гаспадаркай, харчаваннем і жыццём, хоць у рэчаіснасці сельская гаспадарка вырабляе шырокі асартымент тавараў, не аднолькава карысных для чалавечага жыцця.

Сярод распаўсюджаных памылак — сцвярджэнне, што форма ўласнасці не мае вялікага значэння. Пры гэтым спасылаюцца на пэўныя дзяржаўныя прадпрыемствы на Захадзе, якія фактычна рэнтабельныя не менш за прыватныя (спіс звычайна даволі кароткі). Такі падыход настолькі абсурдны, наколькі прыклад жанчыны, якая штурхае ядро, сведчыць аб тым, што жанчына фізічна не слабей за мужчын. Аналітычнае параўнанне прыватных прадпрыемстваў з дзяржаўнымі, якія дзейнічаюць у роўных абставінах, сведчыць, што прыватныя прадпрыемствы ў сярэднім больш эфектыўныя за дзяржаўныя.

### Недакладныя ўзаемасувязі

Распаўсюджаныя памылковыя абагульненні тлумачацца тым, што ў свабодным грамадстве негатыўным падзеям надаецца больш увагі з боку сродкаў масавай інфармацыі, чым пазітыўным. Палітычная апазіцыя таксама звычайна засяроджвае ўвагу на адмоўных з'явах, асабліва калі яна не вельмі пакутуе ад дакораў сумлення і мае жаданне захапіць уладу. «Схільнасць» да негатыўнага асвятлення рэчаіснасці з боку сродкаў масавай інфармацыі ёсць, магчыма, непазбежны вынік іх свабоды, дакладна як схільнасць да «пазітыўнага» асвятлення (прапаганды поспеху) непазбежна спадарожнічае дыктатуры.

Ступень схільнасці да негатыўнага асвятлення падзеяў сродкамі масавай інфармацыі залежыць ад маральных якасцяў журналістаў і, перш за ўсё, ад іх інтэлектуальнага ўзроўню, ад здольнасці журналістаў процістаяць спакусе падману грамадскасці або патурання масам. Такі тып апартунізму тыпічны для свабоднай краіны. Ва ўмовах дыктатуры, наадварот, патураюць уладам.

Каб пазбегнуць памылак, трэба заўважаць розніцу паміж ростам бачнасці пэўных адмоўных з'яваў — напрыклад, злачынства, беднасць, сацыяльныя няроўнасці — і фактычным ростам гэтых з'яваў. Палітычная лібералізацыя і адпаведная свабода слова выкрылі гэтыя з'явы, якія ў пэўнай ступені існавалі, але былі скрытыя ад грамадскасці. Нядольнасць урада выправіць такое становішча падводзіць некаторых аглядальнікаў да высновы, што ўсе сацыяльныя няшчасці ўзніклі пасля крушэння былога рэжыму.

Памылковым будзе і перакананне, што любое новае рашэнне ў эканамічным жыцці або ў цывілізацыі ўвогуле, лепшае за ранейшае толькі таму, што вынайдзена пазней. Гэта адлюстроўваецца ў зняважлівых параўнаннях «капіталізму XIX стагоддзя» з «капіталізмам XX стагоддзя». Некаторыя лічаць, што вызначэнне нейкай з'явы як тыповай для капіталізму XIX стагоддзя — дастатковы аргумент для таго, каб яе адхіліць. Я не ўпэўнены, што людзі схільныя да такіх рытарычных параўнанняў, ведаюць базісныя адрозненні паміж гэтымі варыянтамі капіталізму. Думка, што ўсе пазнейшыя рашэнні безумоўна перасягаюць ранейшыя — тэрмін тэорыі, запазычанай ад гістарычнай філасофіі, якая была асабліва папулярная ў XIX стагоддзі, больш за ўсё ў марксізме. Гэтая гістарычная канцэпцыя сцвярджае, што кожны наступны перыяд адносна папярэдняга больш прагрэсіўны. Сацыялізм XX стагоддзя ў якасці замены прыватнага рынкавага капіталізму быў, урэшце рэшт, галоўнай гістарычнай памылкай.

Кажучы пра рэформы банкаўскага сектара ў постсацыялістычных краінах, трэба заўсёды памятаць пра яго пачатковае дарэформавае становішча. Не было ніводнага рэальнага цэнтральнага банка, ні якіх-небудзь сапраўдных камерцыйных банкаў — існавала адна вялізная структура, монабанк, падпарадкаваны органам цэнтральнага планавання. Крэдыты даваліся не згодна з камерцыйнымі крытэрыямі, а ў адпаведнасці курсу цэнтральнага планавання. Кожнае прадпрыемства было замацавана за адным філіялам монабанка. Не існавала ніякіх прыватных айчынных або замежных банкаў. У цэлым, з тэхналагічнага пункту погляду, банкаўскі сектар быў адсталы. Пасля трох гадоў рэформы сталі назірацца істотныя змены па ўсіх гэтых кірунках, сама меней, што да краінаў Цэнтральнай Еўропы з найбольш паспяховым ажыццяўленнем рэформаў.

Многія аглядальнікі крытыкуюць адсутнасць эфектных банкруцтваў буйных дзяржаўных прадпрыемстваў у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. На аснове такіх назіранняў робяцца вывады, што не адбывалася перабудовы, або «смерці», дзяржаўнага сектара. Гэта, аднак, памылка. Напрыклад, у Польшчы, дзе выпадкі дэманстрацыйных банкруцтваў буйных прадпрыемстваў сапраўды былі рэдкімі, многія з іх прынялі радыкальныя меры — распрадажу або здачу ў арэнду значнай часткі сваіх актываў, што надало магутны імпульс працэсу прыватызацыі.




### «Кітайскі шлях»

Існуе тэндэнцыя сцвярджаць, што «кітайскі шлях» рэформаў перавышае падыходы да эканамічнага пераўтварэння, што ўжываліся ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Слабы бок у гэтым сцвярджэнні — гэта тое, што «кітайскі шлях» рэдка калі вызначаецца з дастатковай дакладнасцю. Некаторыя бачаць перавагу «кітайскага шляху» ў тым, што рэформа, накіраваная на ўсталяванне рынкавых адносінаў, папярэднічала палітычнай дэмакратызацыі. Яны даказваюць, што класічная паслядоўнасць «спачатку капіталізм, потым дэмакратыя» — дае лепшы шанец дасягнуць і тое, і другое, чым зваротны парадак, як у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэта, вядома, мае дачыненне да ўсебаковага абмеркавання ролі дэмакратыі ці аўтарытарнай улады ў межах эканамічнага развіцця. Але аўтарытарныя правілы не даюць гарантыі эканамічнага поспеху з прычыны таго, што існуюць розныя тыпы аўтакратыяў. Акрамя пракапіталістычных аўтакратыяў тайваньскага або паўднёвакарэйскага тыпу, існуюць папуліцкія аўтакратыі. Для эканомікі папуліцкая аўтакратыя не лепшая за слабую дэмакратыю, і калі слабая дэмакратыя павінна была б замяніцца аўтарытарнай уладай, яна хутчэй за ўсё была б уладай папуліцкага тыпу. Таму лепш умацоўваць дэмакратыю сродкамі дзеючай канстытуцыі і дзеючага выбарчага закона. Дэмакратыя ў сучасным свеце важная для годнасці чалавека ў яго дачыненнях з дзяржавай і самы надзейны сродак кантролю, сама меней, у грамадствах, якія належаць да заходняй культуры.

У канцы 70-х гг. у Кітаі фактычна адбылася масавая прыватызацыя сельскай гаспадаркі, у якой было занята 80% насельніцтва. Гэта надало моцны стымул развіццю несельскагаспадарчага прыватнага сектара. Прыватызацыя на вёсцы, хаця і была неабходная, не магла прынесці такіх захапляючых вынікаў, напрыклад, у Расіі, дзе сельская гаспадарка займае меншую частку эканомікі і тэхналагічна калектыўная. Урэшце, буйны наплыў замежнага капіталу ў Паўднёвы Кітай (пераважна заморскага кітайскага паходжання) таксама здаецца ў значнай ступені спецыфічным фактарам, які цяжка ўявіць у такім буйным маштабе ў большасці краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

### Сацыяльная незадаволенасць

Калі рэформы пачынаюцца ў цяжкіх эканамічных умовах, дык пазней — пасля кароткага перыяду «надзвычайнай» палітыкі — абавязкова будзе назірацца незадаволенасць незалежна ад эканамічнай стратэгіі. Але і паспяховае радыкальнае пераўтварэнне таксама непазбежна выклікае шырокае незадаволенне. Адмова ад радыкальнай рэформы толькі з прычыны таго, што яна выклікае назадаволенасць, падобная на чаканне магчымасці рухацца па зямлі, не ствараючы ніякага трэння. Па-першае, абумоўлены цяжкім пачатковым становішчам узровень жыцця некаторых у параўнанні з мінулым зніжаецца. Ён мог бы панізіцца нават больш ва ўмовах стагнацыі, але звычайна людзі гэтага не разумеюць. Але зніжэнне ўзроўню жыцця не адзіная і, магчыма, не галоўная прычына сацыяльнай незадаволенасці. Ва Усходняй Германіі ўзровень жыцця большасці насельніцтва прыкметна ўзрос дзякуючы буйным пераводам грашовых сродкаў з Захаду, але большасць усходніх немцаў незадаволена. У Польшчы ўзровень жыцця многіх прадстаўнікоў «інтэлігенцыі» панізіўся, але гэта тая група, якая да гэтага часу аказвае самую моцную падтрымку радыкальнай эканамічнай рэформе.

Другая прычына вынікае з таго, што ва ўмовах мінулай эканамічнай сістэмы ўсеагульная эканамічная свабода, гэта значыць, магчымасць спрыяння эканамічнаму прагрэсу, была для кожнага вельмі абмежаваная. Новая сістэма радыкальна павялічвае ўсеагульную эканамічную свабоду, але магчымасць выкарыстаць непасрэдную яе перавагу ў розных людзей неаднолькавая, яна залежыць ад іх узросту, адукацыі, месца жыхарства. З'яўленне эканамічнай свабоды выклікае, сама меней, на першым этапе, новы тып сацыяльнага расслаення, які складаецца з тых, хто можа свабодна ўжыць непасрэдную перавагу новых магчымасцяў, і тых, хто не можа зрабіць гэтага з поспехам. Звычайная з'ява, якая ў выніку гэтага ўзнікае сярод прадстаўнікоў другой групы, — зайздрасць. Гэта асабліва выяўляецца, калі людзі думаюць — справядліва або памылкова, — што эканамічныя пераможцы не заслугоўваюць свайго эканамічнага поспеху, паколькі яны альбо з эліты былой сістэмы (мелі стартавыя магчымасці), альбо набылі свае грошы ў выніку дзейнасці, якая раней клеймавалася як «спекуляцыя».

Кожная эканамічная сістэма мае спецыфічную іерархію ўзнагародаў і прэстыжу, і іерархія, тыповая для нярынкавай дзяржаўнай эканомікі, вельмі адрозніваецца ад той, што ўласцівая канкурэнтаздольнай рынкавай эканоміцы. Некаторыя групы набываюць уплыў, іншыя — губляюць. Апошнія, напрыклад, уключаюць працоўных цяжкай і здабыўнай прамысловасці — галінаў, якія былі галоўнай апорай разбуральных эканомік ва ўмовах цэнтральнага планавання. Тыя, хто страчвае ў адносным вылічэнні, не могуць быць прыхільнымі да рынкавых рэформаў. І ўрэшце, рэформы абавязкова спараджаюць некаторае адкрытае беспрацоўе і пазбаўляюць людзей галоўнай перавагі, што гарантавалася мінулай эканамічнай сістэмай, — поўнай занятасці. Тыя, хто адразу можа скарыстаць магчымасці, прапанаваныя павелічэннем эканамічнай свабоды, звычайна прыхільна ставяцца да рынкавых рэформаў, і дзякуючы хутчэйшаму росту прыватнага сектара колькасць гэтых людзей павялічваецца. Але і адносіны да эканамічных рэформаў працоўных, занятых на прыватных прадпрыемствах, таксама больш прыхільныя, чым тых, хто працуе на дзяржаўных прадпрыемствах. Урэшце, больш адукаваныя людзі больш схільныя да падтрымкі радыкальных эканамічных рэформаў, чым менш адукаваныя, магчыма, таму што іх здольнасць разумець праблемы і магчымасці, прапанаваныя такой рэформай, у сярэднім вышэйшая.

На Захадзе, у асяроддзі некаторых палітыкаў і шырокіх колах грамадскасці бытуе памылковая думка, што заходнія краіны ў цэлым ахвяруюць эканомікай, калі адкрываюць свае рынкі для бедных краінаў, у тым ліку і краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Разуменне, што абодва бакі могуць атрымаць карысць у выніку свабоднага гандлю, дзіўным чынам у свядомасці грамадскасці на Захадзе адсутнічае. На справе ад Захаду патрабуецца не эканамічная ахвяра, а некаторая мужнасць і творчая фантазія з боку той часткі палітыкаў, якія павінны рэагаваць на беспрэцэдэнтныя змены, што мелі месца на Усходзе.

*У Магілёве бліжэйшым часам з'явіцца новы дзяржаўны універсітэт*

# Універсітэт – з двух інстытутаў

Ён будзе створаны ў выніку зліцця двух інстытутаў — машынабудаўнічага і тэхналагічнага. Універсітэт будзе называцца «Тэхнічным» і стане адной з буйнейшых вышэйшых навучальных устаноў краіны.

Асноўную базу новай ВНУ складзе машынабудаўнічы інстытут (ММІ). У апошні год працу ММІ суправаджалі гучныя скандалы, звязаныя з дзейнасцю кіраўніцтва інстытута. Некалькі вядучых выкладчыкаў і навукоўцаў інстытута нават напісалі адкрыты ліст, у якім запатрабавалі змяніць рэктара і ягоных намеснікаў. Кіраўніцтва абвінавачвалася ў разбазараванні шматмільярдных сродкаў, выкарыстанні значных сумаў для паляпшэння свайго дабрабыту і развале навуковай працы. Інстытут некалькі месяцаў правяралі спецыяльныя камісіі з міністэрства адукацыі і дзяржкантролю. У выніку ў інстытуце з'явіўся новы рэктар. І вось цяпер навучальную ўстанову паскоранымі тэмпамі пачалі рыхтаваць да аб'яднання з тэхналагічным інстытутам у Тэхнічны універсітэт.

Прынамсі, многія спецыялісты адзначаюць, што гэтае аб'яднанне наўрад ці пойдзе на карысць абодвум ВНУ. Яно вымагае вялікіх грошай, якіх заўсёды не хапае.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Прэстыжныя прафесіі

**Юрыст, бізнесмен, гаспадарчы кіраўнік, менеджэр — такія прафесіі цяпер найбольш папулярныя сярод мінскіх юнакоў і дзяўчат.**

Сацыялагічнае даследаванне правялі спецыялісты Мінскага НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў. Яны выявілі, што найбольш прэстыжнымі сярод юнакоў і дзяўчат з'яўляюцца прафесіі, якія патрабуюць вышэйшай адукацыі і тычацца гуманітарнай і прадпрымальніцкай групы прафесіяў.

Не такімі прэстыжнымі з'яўляюцца прафесіі ўрача і эканаміста (13—17% ад усіх удзельнікаў апытання).

Сталічная моладзь мала цэніць прафесіі праграміста, бухгалтара, артыста, пісьменніка, журналіста і вучоната. Непрэстыжныя таксама прафесіі работнікаў сілавых структураў — ваеннаслужачыя, целаахоўнікі, міліцыянты (ад 1 да 4% адказаўшых). Нізкі прэстыж прафесіяў педагога і інжынера (у сярэднім, па 3%).

Амаль ніхто не хоча быць рабочым ці працаваць у сферы абслугоўвання (1—2%). Страціла сваю прыцягальнасць некалі папулярная прафесія прадаўца. Прафесіі сакратара-машыністкі, медсястры, майстра мастацкіх рамёстваў набіраюць толькі па 1% перавагаў.

*БелаПАН*

КАДРЫ



# «Белая кніга» ў Магілёве

**15 студзеня ў Магілёве прайшла прэзентацыя першага ў Беларусі выдання аб масавых парушэннях правоў чалавека — «Белай кнігі».**

Як распавёў укладальнік выдання, старшыня магілёўскай філіі Беларускага Хельсінкскага камітэта Валерый Сівуха, думка стварыць такую кнігу з'явілася ў яго яшчэ ў 1995 годзе. *«Пасля некалькіх незаконных штрафаў і арыштаў,* — тлумачыць ён сваё памкненне, — *мы з праваабаронцам Сяргеем Абадоўскім вырашылі, што неабходна сістэматызаваць парушэнні правоў чалавека ў Магілёве і нагадаць уладам аб іх адказнасці ў «Белай кнізе».*

Валерый Сівуха прааналізаваў каля 400 дакументаў і даследаваў 40 справаў. З дакументаў вынікае, што за ўдзел у «несанкцыянаваных» мерапрыемствах былі пакараныя каля 50 магілёўцаў, у асноўным сябры Народнага Фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Свабоднага прафсаюза.

У кнізе змешчаныя прозвішчы супрацоўнікаў вертыкалі і міліцэйскіх органаў, якія, на думку укладальнікаў, парушалі правы чалавека. *«Калі не будзе рэакцыі з боку праваахоўных органаў на «Белую кнігу»,* — падзяліўся сваім меркаваннем праваабаронца Сяргей Абадоўскі, — *то наступным разам яна выйдзе яшчэ большым аб'ёмам».*

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

# Хабарнікі ў пагонах

У Магілёве арыштаваныя ў момант атрымання хабару падпалкоўнік і прапаршчык, абодва — супрацоўнікі мясцовага гарваенкамата. Хабар складаў 150 долараў — на дваіх. Ваенны пракурор В.Клімаў распавёў, што адзін хлопец-прызыўнік меў адтэрміноўку па стане здароўя. Калі яна скончылася, хлопец прасіў працягнуць яе па прычынах цяжкога сямейнага стану. Супрацоўнікі ваенкамата захацелі за такую адтэрміноўку 150 долараў. На гэтым і папаліся.

**Іван ЗАСАДА**

# Даты і лёсы

## *19 студзеня*

**Вадохрышча.**

**1809.** Нарадзіўся выбітны амерыканскі пісьменнік Эдгар Алан По, аўтар першага ў сусветнай літаратуры дэтэктыва «Забойства на вуліцы Морг» (1841) і майстар жахлівых гісторыяў.

**1839.** Нарадзіўся выбітны французскі мастак Поль Сезан, які не меў прызнання пры жыцці і нават паслужыў прататыпам галоўнага героя рамана Э.Заля "Творчасць" — бяздарнага і няўдачлівага жывапісца. Публіка зразумела мастацтва Сезана ўжо пасля яго смерці, і стыль ягоных карцін паслужыў асновай для стварэння кубізму.

**1915.** Першая бамбёжка англійскіх гарадоў германскімі дырыжаблямі. У выніку чатыры чалавекі загінулі і дзесяткі былі параненыя бомбамі. Абодва дырыжаблі праз год разбіліся падчас шторму.

**1969.** Чэшскі студэнт Ян Палах спаліў сябе на плошчы св.Вацлава ў Празе ў знак пратэсту супраць акупацыі краіны савецкімі войскамі. Ён быў пахаваны як нацыянальны герой.

**1982.** Намеснік старшыні КДБ і сваяк Брэжнева (яны былі жанатыя на родных сёстрах) Сямён Цвігун скончыў жыццё самагубствам — атруціўся цыяністым каліем. Перад смерцю Цвігун меў непрыемную размову з адной з найважнейшых асобаў у кіраўніцтве КПСС Міхаілам Суславым, які праз тыдзень сам памёр ад інсульту. Прычынай падзеяў стаў скандал вакол буйнога крадзяжу брыльянтаў, здзейсненага, як мяркуюць, па замове дачкі Брэжнева Галіны. У выніку клан Брэжнева быў скампраметаваны, што палегчыла Андропаву прыход да ўлады.

## *20 студзеня*

**1907.** Нарадзіўся прэм'ер-міністр Зімбабве ў 1956—1963 гадах і, магчыма, наш зямляк Рой Віленскі.

**1919.** У Мінску адчыніўся Абласны музей, які размяшчаўся ў цяперашнім Доме мастацтваў. Падчас савецка-польскай вайны значную частку экспанатаў вывезлі акупанты, і ў 1921 г. музей спыніў сваё існаванне.

**1924.** Нарадзіўся класік музыкі кантры Слім Уайтмен.

**1944.** Брытанская авіяцыя скінула на Берлін 2.300 тон бомбаў.

**1945.** У Вашынгтоне адбылася інаўгурацыя прэзідэнта Франкліна Д.Рузвельта, абранага прэзідэнтам ЗША на рэкордны чацвёрты тэрмін. У гэты ж дзень у **1981 г.** быў інаўгураваны 69-гадовы Рональд Рэйган — найстарэйшы з усіх прэзідэнтаў ЗША.

**1969.** Падчас аварыйнай пасадкі разбіўся касмічны карабель «Саюз-5». Пілота — Барыса Валынава — уратаваў амартызацыйны фатэль, зроблены дакладна па ягонай фігуры, але ўдар аб зямлю быў настолькі моцны, што ў касманаўта пераламаліся карані зубоў. ТАСС, натуральна, паведаміў, што «палёт прайшоў паспяхова, карабель прызямліўся ў зададзеным раёне» (насамрэч — у 600 км ад яго).

**1971.** Нарадзіўся лабрадор па мянушцы Сіндзі-Клео, які больш за ўсіх сабакаў працаваў павадыром для невідушчых людзей — 14 гадоў 8 месяцаў — на вуліцах Тэль-Авіва.

**1984.** У псіхіятрычнай лякарні Акапулька (Мексіка) памёр акцёр Джоні Вейсмюлер, выканаўца ролі Тарзана ў серыі галівудскіх фільмаў.

## *21 студзеня*

**1584.** У Нясвіжы заснаваная езуіцкая калегія.

**1924.** Памёр Уладзімір Ленін, старшыня СНК СССР. На гэтую пасаду быў прызначаны А.Рыкаў, а Савет працы і абароны ўзначаліў Л.Каменеў.

**1939.** У Мінску была заснаваная Дзяржаўная карцінная галерэя БССР (падчас вайны разрабаваная).

**1951.** Падчас выбуху вулкана Ламінгтон у Новай Гвінеі за лічаныя імгненні загінулі 3 тысячы чалавек. Языкі полымя злізалі навакольныя лясы і вёскі, засталіся толькі пні і падмуркі дамоў. Грыбавідная хмара попелу за 2 хвіліны ўзнялася на вышыню 12 км, выбух было чуваць за 320 км.

**1954.** У ЗША адбыўся спуск на ваду першай атамнай падводнай лодкі *Nautilus*.

**1976.** Адбыліся першыя пасажырскія рэйсы на брытана-французскіх звышгукавых авіялайнерах *Concord*: Лондан—Бахрэйн і Парыж—Рыо-дэ-Жанэйра.

**1989.** 110-гадовая Аўгуста Бунге, жыхарка амерыканскага штата Вісконсін, стала галавой сям'і, якая налічвае 7 пакаленняў: у яе нарадзіўся прапрапрапраўнук Крыстафер.

*Падрыхтаваў*

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Коварство голубых таблеток

**За способность любить надо платить. Причем не только деньгами. Три пациента во Франции уже скончались сразу после того, как начали принимать новейшее американское средство от импотенции — виагру.**

Продажа дорогостоящего медикамента началась во Франции только 15 октября. Но уже разошлось 50 тысяч упаковок голубых таблеток. И вот — три смерти. Одна от инфаркта, одна от кровоизлияния в мозг, причины третьей еще до конца не определены. Но все последовали в течение двух недель после начала приема нового лекарства.

Сразу после того как фармацевтическая лаборатория Пфайзер начала фиксировать случаи странных смертей во Франции, эксперты вдруг вспомнили печальную статистику применения виагры в США. Там за семь месяцев использования медикамента скончалось 130 человек, глотавших эти таблетки. Как правило, все эти люди были сердечниками. Их забыли предупредить, что принимать виагру вместе с какими-либо кардиологическими препаратами строжайше запрещено. Причем у 44 из 130 погибших американцев смерть наступала уже спустя 4-5 часов после приема препарата.

Ситуация осложняется тем, что, как правило, интересуются этими таблетками мужчины пожилого возраста. А значит, либо уже страдающие сердечными хворями, либо склонные к таковым. Из 50 тысяч первых пользователей виагры во Франции 45 процентов были в возрасте от 50 до 61 года. Пока официальные власти не склонны связывать первые смертельные случаи именно с последствиями действия виагры.

Известно, что уже спустя 15 часов после приема виагры эффект ее действия снижается вполовину. А через 24 часа в крови уже не остается никаких следов препарата.

Тем не менее досье на виагру передано для изучения во французское национальное агентство по медикаментам. Причины странных смертельных случаев среди принимавших препарат пациентов будут тщательно исследованы. Пока же усиленно пропагандируется опыт тех врачей и аптекарей, которые не подпускают пациентов к голубым таблеткам, не проверив тщательнейшим образом здоровья пациентов.

Тем не менее вряд ли все эти предосторожности и тревожная статистика снизят спрос на волшебные таблетки. Желание любить и снова чувствовать себя мужчиной наверняка окажется сильнее любых страхов. В том числе страха перед инфарктом.

*© Mirror Weekly*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 498 Нумар падпісаны ў друк 17/01/99 (15:00) Наклад — 17.720